МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№9 (125)
верасень 2012

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:



НАВІНЫ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## 30-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ

У беларускім грамадска-рэлігійным цэнтры канадскага горада Таронта 1–3 верасня праходзіла юбілейная, 30-я, Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, арганізаваная Згуртаваннем беларусаў Канады (ЗБК) і Беларуска-Амерыканскім Задзіночаннем (БАЗА). Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі адбываюцца кожныя два гады, пачынаючы з 1952 года.

Паводле словаў старшыні ЗБК спадарыні Валянціны Шаўчэнка, Сустрэча прайшла паспяхова, усё запланаванае было зроблена. Як вынік дыскусій па круглых сталах былі прынятыя рэзалюцыі, якія падаем ніжэй.

Удзел у мерапрыемствах узяло больш за 70 чалавек. Часткова гэта былі тыя, хто і раней браў удзел у Сустрэчах, але было таксама і шмат новых удзельнікаў. Ва ўсіх, хто сабраўся на Сустрэчу, быў цудоўны настрой, панавала атмасфера яднання, а гэта, на думку спадарыні В.Шаўчэнка, надзвычай важна. Яна падкрэсліла, што Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі – гэта не з'езд нейкіх арганізацый, а перш за ўсё сустрэча беларусаў, незалежна ад таго, належаць яны да нейкіх суполак або не. Сюды прыходзяць усе, хто зацікаўлены. "Вядома, – гаворыць сп. Валянціна, – мы спадзяемся, што потым яны захочуць далучыцца да нашых арганізацыяў, але гэта мусіць быць уласным выбарам кожнага".

Пасля малітвы за беларускі народ Сустрэчу адкрыла старшыня ЗБК спадарыня Валянціна Шаўчэнка. З вітальнымі словамі да ўдзельнікаў Сустрэчы выступілі: старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі спадарыня Івонка Сурвілла, старшыня Галоўнай Управы Беларуска-Амерыканскага Задзіночання спадарыня Ганна Сурмач, старшыня Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі БНФ спадар Зянон Пазняк, лідары рэгіянальных беларускіх суполак ЗША і Канады. Прывітанне ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" зачытала пісьменніца Вольга Іпатава.

Галоўнай тэмай першага дня Сустрэчы былі "Праблемы сучаснай беларускай эміграцыі". Падчас круглых сталоў удзельнікі форуму абмеркавалі наступныя пытанні: "Рынак працы" (з дакладам выступала Зіна Гімпелевіч), "Захаванне і падтрымка беларускай культуры на эміграцыі" (дакладчыкі – Вольга Іпатава і Зянон Пазняк), "Сям'я і эміграцыя" (выступалі Пётра Мурзёнак і з Беларусі праз Skype – Надзея Лявончанка). Працаваў стол прававой дапамогі па пытаннях эміграцыі. Быў наладжаны продаж кніг, а таксама арганізаваная цудоўная мастацкая выстава. Усе, хто хацеў прадставіць на ёй свае творы, мелі магчымасць гэта зрабіць.



*Вольга Іпатава*

Падчас сустрэчы было вырашана зрабіць агульны фотаздымак удзельнікаў і даслаць яго са словамі падтрымкі да беларускіх палітвязняў у якасці паштоўкі, каб выказаць сваю салідарнасць з усімі, хто церпіць за дэмакратычную будучыню Беларусі. Таксама дэлегатамі былі падпісаныя саколкі з партрэтамі палітзняволеных.

А ўвечары першага дня ўдзельнікаў чакала цудоўная культурная праграма: выступалі паэты, прафесійныя музыкі. Людзі нібыта апынуліся дома, у роднай Беларусі. Канцэрт адкрыўся

літаратурна-музычнай кампазіцыяй з удзелам атаўскага дуэта ”Кантабіле” (скрыпачка Улада Шамецька і гітарыст Міхась Рыкаў) і паэтаў Юрася Шамецькі і Пятра Мурзёнка. У другім аддзяленні з беларускімі народнымі песнямі выступала Святлана Літвінава, якая ўжо традыцыйна спявае на Сустрэчах беларусаў Паўночнай Амерыкі, а таксама Валянціна Шаўчэнка, якая выконвала беларускія рамансы. Потым наладзілі “беларускае караоке”. Усе былі шчаслівыя і не хацелі разыходзіцца.



*Пілігрымка да Беларускага памятнага крыжа*

На другі дзень удзельнікі Сустрэчы адправіліся ў пілігрымку да Беларускага памятнага крыжа ў Мідландзе. Там адбылася прэзентацыя кніг беларускіх аўтараў на эміграцыі. З уступным словам выступіла Вольга Іпатава. У прэзентацыі таксама прымалі ўдзел Ганна Сурмач, Зіна Гімпелевіч, Зянон Пазняк, Юрась Шамецька і Пётра Мурзёнак. Была прынятая канчатковая рэзалюцыя, у якой удзельнікі сустрэчы выказаліся за захаванне адметнай беларускай прысутнасці за межамі Беларусі, выказаліся за падтрымку беларускай мовы, культуры і традыцый сярод беларускай супольнасці Амерыкі і Канады.

Увечары фальклорны тэатр “Яваровы людзі” пад кіраўніцтвам Віялеты Кавалёвай паказаў прэм’еру мюзікла “То-То-То!”. Пасля спектакля фолк-гурт зладзіў для гледачоў вячоркі з танцамі ды спевамі. Некаторыя танчылі так, што аж пападалі, і нікому не хацелася, каб гэтае свята заканчвалася. Як заначае сп. Валянціна Шаўчэнка, ідэі любові да Беларусі аб’ядналі людзей, а гэта выдатны пачатак для сур’ёзных здзяйсненняў на карысць нацыі. Ад імя Згуртавання беларусаў Канады спадарыня Валянціна выказвае шчырую падзяку ўсім, хто самааддана дапамагаў у падрыхтоўцы Сустрэчы. Знайсці час, сілы і магчымасці для гэтага бывае вельмі нялёгка, а таму гэтая дапамога надзвычай каштоўная.

Наступная, 31-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі адбудзецца ў 2014 г. у Злучаных Штатах Амерыкі.

*Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

## ВІТАННЕ ЎДЗЕЛЬНІКАМ 30-Й СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ Ў ТАРОНТА АД ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ “БАЦЬКАЎШЧЫНА”

Шаноўныя ўдзельнікі 30-й, юбілейнай, Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі!

Сардэчна вітаем вас ад імя Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”! Зычым плённай працы вашаму высокаму форуму, які стаўся ўжо традыцыяй беларускага жыцця ў замежжы!

Прыемна адзначыць, што сёлетняя сустрэча праходзіць менавіта ў Беларускім грамадска-рэлігійным цэнтры, які нясе моцную духоўную падтрымку беларусам Канады і ЗША і дзе штотыдзень праходзяць беларускія набажэнствы.

З моманту правядзення Першай сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі прайшло 60 гадоў. Гэта нямала для чалавечага жыцця, і яшчэ больш для грамадскай дзейнасці. І тое, што традыцыя сустрэчаў не прыпынілася, кажа пра важнасць гэтай падзеі, яе каштоўнасць для беларусаў Амерыкі. Вялікую важнасць маюць гэтыя сустрэчы і для нас, беларусаў метраполіі. Беларускія суполкі сёння ёсць у 25 краінах свету. Раз’яднаныя тэрытарыяльна, мы застаемся адным народам, адной нацыяй найперш таму, што працягваем камунікацыю, ладзім сумесныя мерапрыемствы, застаемся неабыякавымі да лёсу Беларусі, разам вырашаем агульныя праблемы, разам плануем нашу будучыню. Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” заўсёды з цікавасцю сочыць за тым, як праходзяць вашы мерапрыемствы, з задавальненнем асвятляе гэтыя падзеі ў сеціве і на старонках бюлетэню “Беларусы ў свеце”.

Тэма сёлетняй Сустрэчы – “Праблемы сучаснай беларускай эміграцыі” – вельмі актуальная. Мы ўсведамляем, як важна і няпроста беларусам, якія пераехалі ў іншую краіну, адчуваць сябе сваімі ў іншым грамадстве і пры гэтым не страчваць беларускіх каранёў. На жаль, сённяшняя беларуская сітуацыя ўнутры краіны не спрыяе паглыбленню нацыянальнай ідэнтычнасці. Менавіта праца з беларускім замежжам прадэманстравала нам неабходнасць правядзення вялікай кампаніі ў Беларусі, прысвечанай нацыянальнай ідэнтычнасці. Жадаем Вам, каб абмеркаванне гэтай праблемы было плённым і канструктыўным. Мы цэнім тую вялікую працу, якую вы ўсе робіце дзеля захавання беларускай прысутнасці за мяжой і зычым, каб вам ставала моцы і натхнення.

Шчыра віншуем вас, шаноўныя ўдзельнікі Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, з юбілейным з’ездам! Жадаем святла і радасці вам і вашым блізкім!

Чакаем Вас на Шостым з’ездзе беларусаў свету, што адбудзецца ўлетку 2013 года!

Жыве Беларусь!

*Управа Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”*
*31.08.2012, г. Мінск*

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, якія нарадзіліся ў кастрычніку: Антона Астаповіча (Беларусь), Валерыя Герасімава (Беларусь), Дзмітрыя Падсадчыка (Беларусь), Алеся Шатэрніка (Беларусь), Уладзіміра Астапука (Расія), Генадзя Леха (Расія), Вольгу Галанаву (Расія), Алега Якшэвіча (Беларусь), Паўла Марозава (Эстонія). Зычым заўсёды заставацца ў гуморы, добра пачувацца і быць шчаслівымі!



26 кастрычніка юбілей святкуе сябра Вялікай Рады Валер Казакоў (Расія). Шчыра віншуем шаноўнага юбіляра са святам і зычым шчасця, моцнага здароўя, святла і цеплыні!

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

# ЖНІВЕНЬСКІЯ БУДНІ Ў ТБК ЛІТВЫ

У апошнюю суботу жніўня ў ТБК адбылося чарговае мерапрыемства. Яно было прысвечана тым беларускім дзеячам, якія нарадзіліся або памерлі ў жніўні.

На пачатку імпрэзы старшыня ТБК у Літве сп. Хв. Нюнька павіншаваў усіх прысутных з Днём Незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

З усіх нацыянальных святаў свята дзяржаўнай незалежнасці – найвялікшае. Незалежнасць – гэта свабода нацы. Калі свабода страчана, народ пакутуе, бо чыніцца гвалт над яго мовай, сумленнем, культурай і працай. Гонар таму народу і людзям, якія змагаюцца за свабоду і незалежнасць Айчыны.

Сп. Хв.Нюнька зачытаў віншаванне з Днём Незалежнасці ад сп. З. Пазняка.

У жніўні споўнілася 95 гадоў з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля. Пра яго творчы і жыццёвы шлях прысутным распавёў сп. Артур Юдзіцкі.

Янка Брыль (Іван Антонавіч Брыль) (1917–2006) нарадзіўся 4 жніўня 1917 года ў Адэсе ў сям'і чыгуначніка. У 1922 годзе разам з бацькамі пераехаў на радзіму ў Заходнюю Беларусь (вёска Загора Карэліцкага раёна Гарадзенскай вобласці), на той час – тэрыторыя Польшчы.

Пасля заканчэння сямігодкі займаўся самаадукацыяй, бо не меў сродкаў навучацца ў гімназіі.

З 1938 года друкаваўся ў віленскім часопісе ”Шлях моладзі”.

У 1939 годзе прызваны ў польскае войска, служыў ў марской пяхоце. У верасні 1939 года трапіў у нямецкі палон, адкуль збег на радзіму восенню 1941 года, далучыўся да савецкіх партызанаў.

З кастрычніка 1942 года – сувязны партызанскай брыгады, с сакавіка па ліпень 1944 года – партызанскі разведчык і рэдактар падпольнай газеты ”Сцяг свабоды“. З кастрычніка 1944 года жыве ў Мінску. Працаваў у рэдакцыях газеты-плаката ”Раздавім фашысцкую гадзіну“, журналах ”Вожык”, ”Маладосць”, ”Полымя“, Дзяржаўным выдавецтве БССР.

Найбольш вядомыя творы – зборнікі ”Ніжнія Байдуны“ і ”Золак, убачаны здалёк“, раман ”Птушкі і гнёзды”.

Я. Брыль вядомы і як перакладчык з рускай, украінскай і польскай моваў.

Герой рамана ”Птушкі і гнёзды“ Алесь Руневіч — гэта беларус у пошуках ідэальнай Беларусі. Вобраз Руневіча Брыль шмат у чым напісаў з самога сябе — наіўны хлопец з Заходняй Беларусі, прызваны з пачаткам вайны ў польскае войска, трапляе ў нямецкі палон і намагаецца ўцячы адтуль. Урэшце Руневічу з сябрам неверагодным чынам удаецца перайсці да Саветаў, ён робіцца партызанам.

Вядучы праграмы ”Гамбургскі рахунак Бахарэвіча“ на Радыё Свабода адзначае глыбокую філасофію твораў Я.Брыля. Напрыклад: ”Таталітарызм заўжды страшны найперш сваім бытам. Добрыя людзі нічога не робяць — як вядома, гэтага цалкам хопіць для перамогі зла. Але рабі ці не рабі — ты закладнік гісторыі“ і ”Сталасць — гэта толькі магчымасць самому сабе выбіраць ілюзіі”.

23 жніўня споўнілася 165 гадоў з дня смерці вядомага беларускага паэта, фальклярыста і драматурга Яна Чачота.

Са змястоўным дакладам пра жыццё і творчую дзейнасць Яна Чачота выступіў сп. Зміцер Карачун.

Нарадзіўся Ян Антоні Чачот 7 ліпеня 1796 года ў в. Малюшычы Навагрудскага павета Гарадзенскай губерні. Недзе ў 1809 годзе Ян Чачот перабраўся ў павятовы горад Навагрудак, дзе ў 1809–1815 гадах вучыўся ў дамініканскай школе. Тут ён моцна пасябраваў са сваім аднакласнікам Адамам Міцкевічам.

Увосень 1815 года выехаў у Вільню, дзе ў 1816 годзе паступіў на факультэт маральных і палітычных навук Віленскага ўніверсітэта, але праз фінансавыя цяжкасці правучыўся толькі адзін год. Каб зарабіць на хлеб, працаваў памочнікам віленскім адвакатам, потым пісарам, працягваў наведваць вольным слухачом асобныя лекцыі Яўхіма Лялевеля і Ігната Даніловіча, вывучаў літаратуру, гісторыю, мовы і асабліва – права.

У 1818 годзе залічваецца ў створанае Таварыства філаматаў.

На паэтычным турніры 21 снежня 1818 года Ян Чачот быў прызнаны трэцім паэтам пасля Адама Міцкевіча і Тамаша Зана.

Песні і вершы ён пісаў на народнай гаворцы, паэт сабраў тысячы аўтэнтычных беларускіх песень і выдаў іх у шасці зборніках ”Сялянскіх песень...” у перакладзе на польскую мову, восьмую частку з якіх апублікаваў у беларускім арыгінале. Ян Чачот упершыню паставіў пытанне аб прынцыпах будучага ”крывіцкага“ правапісу. Пазнейшыя збіральнікі народнай творчасці (А. Кіркор, І. Насовіч, П. Шэйн) у сваіх зборніках актыўна публікавалі запісаны Чачотам фальклорны матэрыял.

Яго руплівая дзейнасць па збіранні беларускага фальклору і спробы ўнармавання беларускай граматыкі, паводле польскіх і беларускіх даследчыкаў, з'яўляецца здабыткам беларускага нацыянальнага адраджэння.

Вершы паэта актыўна кладліся на музыку яго сучаснікам Станіславам Манюшкам. Усяго на арыгінальныя тэксты і пераклады вусна-паэтычных твораў Я. Чачота кампазітар напісаў 22 песні – болей, чым на словы любога іншага аўтара.

Памёр Ян Чачот 23 жніўня 1847 года і пахаваны ў мястэчку Ротніца (цяпер частка Друскенікаў). Напрыканцы даклада прысутныя паслухалі 2 песні на словы Я. Чачота: ”Кум і кума”, ”Вандроўная пташка”.

28 ліпеня споўнілася 35 гадоў са дня смерці святара Льва Гарошкі. Як заўсёды, з вельмі змястоўным і цікавым дакладам выступіў сябра Рады ТБК сп. Алесь Адамковіч.

У рэлігійнай гісторыі Беларусі XX стагоддзя ёсць шмат выдатных асобаў. Але сярод іх выразна ўзвышаюцца дзве постаці – ксёндз Адам Станкевіч і архімандрыт Леў Гарошка (26.02.1911 – 28.07.1977), які нарадзіўся на Міршчыне ў 1911 годзе ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў Наваградскай беларускай гімназіі, шырока вядомай сваёю беларускасцю. У 1931 годзе становіцца студэнтам Львоўскай грэцка-каталіцкай акадэміі.

17 кастрычніка 1937 года з блаславення мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага і ў яго прысутнасці а. Леў быў рукапаложаны ў святары біскупам Мікітам Будкам.

Польскія ўлады імкнуліся знішчыць любыя праявы беларускага жыцця ”на крэсах“, і а. Леў дзеля сваіх беларускіх казаняў шмат разоў пераводзіўся з парафіі на парафію, аж пакуль у 1939 годзе не быў выселены загадам наваградскага ваяводы з г. зв. прыгранічнае



Алесь Адамковіч

паласы. Але паўсюль, дзе яму даводзілася служыць, ён нёс свайму народу Слова Божае на роднай мове і сеяў зерне святое Уніі, некалі гвалтам чужынцаў адабранае ў народа.

Не спыняе а. Леў сваёй працы і пасля ”ўз'яднання” Заходняе Беларусі з СССР.

Калі ўвесну 1940 года ва ўмовах саюзнага падполля а. Антон Неманцэвіч прызначаецца першым у XX ст. грэка-каталіцкім Экзархам Беларусі, а. Леў Гарошка становіцца ягоным намеснікам. Падчас нямецкай акупацыі вымушаны працаваць на настаўніцкіх курсах, у школе, газетных рэдакцыях ды інш. У канцы вайны разам з хваляй эміграцыі апынаецца на Захадзе: спачатку ў Берліне, а пасля ў Мюнхене, дзе арганізоўвае беларускія душпастырствы.

На эміграцыі пачынаецца самы дзейсны перыяд жыцця айца Льва. У 1946 годзе ён выдае ў Рыме малітоўнік ”Божым шляхам”. З 1947 года распачынае выданне часопіса ”Божым шляхам”, да 1957 года з'яўляецца яго рэдактарам. У 1959 годзе ўступае ў Ордэн айцоў Марыянаў, праз год біскупам Ч. Сіповічам прызначаецца рэктарам Беларускай Каталіцкай Місіі ў Вялікабрытаніі. У 1962-69 гг. – ігумен законніцкага дома аа. Марыянаў у Лондане. У 1965 годзе атрымоўвае годнасць архімандрыта. У 1970–77 гг. а. Леў кіруе беларускай секцыяй радыё Ватыкана і з'яўляецца рэктарам Беларускай Каталіцкай Місіі ў Францыі. Памёр Леў Гарошка 28 ліпеня 1977 года.

На заканчэнне сустрэчы рэдактар і вядучы штотыднёвай беларускамоўнай перадачы на дзяржаўным радыё Літвы сп. Андрусь Старавойтаў распавёў пра палітычнае становішча ў Беларусі, выказаў свае погляды на выбарчы працэс і яго арганізацыю. У дыскусіі ўзялі ўдзел многія з прысутных у зале.

На сустрэчы прысутнічалі госці з Беларусі – чальцы ствaранай партыі БХД.

*Вацлаў Гульбіновіч*

# "ЭМІГРАЦЫЙНАЯ ГІСТОРЫЯ Ў АСОБАХ, ПАДЗЕЯХ, ВЫДАННЯХ"

**У жніўні Наталля Гардзіенка, сябра Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", даследчыца беларускай эміграцыі распачала цікавы праект у сваім "жывым часопісе". Мы папрасілі яе расказаць пра яго нашым чытачам.**

Той праект, што распачаты ў маім "жывым часопісе" (hardzin.livejournal.com) мае ўмоўную назву "Эміграцыйная гісторыя ў асобах, падзеях, выданнях". Штодня я публікую інфармацыю або пра асобаў, з якімі звязаны гэты дзень, або пра выданні замежных беларусаў, або пра падзеі з гісторыі беларускай эміграцыі на Захадзе. Праект узнік у пэўнай ступені спантанна. За гады даследчай і выдавецкай дзейнасці ў галіне эміграцыязнаўства назбіралася багата рознага матэрыялу: складзены сотні біяграмаў беларускіх дзеячаў у розных краінах, храналогіі жыцця эміграцыйных асяродкаў, назапасіўся пэўны ілюстрацыйны матэрыял. Пасля пакуль няўдалых спробаў распачаць працу па падрыхтоўцы Энцыклапедыі беларускага замежжа засталося жаданне збіраць звесткі для яе з надзеяй на ўсё ж будучую рэалізацыю і гэтага праекта. Гэтае жаданне і падштурхнула да стварэння на старонках LJ своеасаблівага календара, дзе будуць публікавацца падрыхтаваныя біяграмы, звесткі пра арганізацыі, падзеі, выданні беларусаў на Захадзе.

Штогод я тым ці іншым чынам (як рэдактар, укладальнік, аўтар) удзельнічаю ў розных кніжна-выдавецкіх праектах. Асабліва плённымі сталі апошнія гады. Так, ад студзеня 2012 г. ужо пабачылі свет чатыры кнігі з маім удзелам, і цяпер у розных ступенях падрыхтаванасці знаходзяцца яшчэ чатыры выданні. Такім чынам пастаянна збіраецца цікавы фактычны матэрыял, які магчыма папулярызаваць і праз сваю старонку ў "жывым часопісе".

З аднаго боку, новы праект працуе як пашырэнне інфармацыі пра гісторыю эміграцыі (пры невялікіх накладах сённяшніх папяровых выданняў праблема актуальная), з іншага — як апрабацыя матэрыялаў будучага энцыклапедычнага даведніка. Публікуючы ў "жывым часопісе" тыя звесткі, што маю, я імкнуся дзяліцца з іншымі даследнікамі інфармацыяй і запрашаю звяртацца да мяне пры патрэбе ў тым ці іншым даступным мне матэрыяле. Магу сказаць, што дзякуючы гэтаму праекту, я ўжо займела новых знаёмых з ліку даследнікаў ці асобаў, зацікаўленых у тых ці іншых аспектах эміграцыйнай гісторыі і сучаснасці. Інтэрнэт дае магчымасць наладжваць сувязь з людзьмі з рэгіёнаў, а таксама з таго ж беларускага замежжа.

Праект распачаўся ў жніўні гэтага года і разлічаны мінімум на гадавы цыкл. Хоць, прыкладам, матэрыялы пра падзеі і выданні, якія пакуль значна саступаюць біяграфічным нарысам у колькасці, відавочна, не вычарпаюцца за гэты час. Безумоўна, хочацца разлічваць на зваротную сувязь. Часам чытачы дасылаюць удакладненні ці дапаўненні да біяграфіі тае ці іншае асобы, што таксама працуе на ўдасканаленне будучых тэкстаў.

Каб зрабіць штодзённыя запісы больш цікавымі, намагаюся суправаджаць іх жыццёвымі каментарамі (бо з некаторымі дзеячамі была асабіста знаёмая), а таксама ілюстрацыямі. Бадай, найбольш складанае ў каляндарным праекце – вытрымліваць штодзённую перыядычнасць, а таксама падабраць адпаведныя ілюстрацыі. Шмат дапамагаюць напрацоўкі для ранейшых выданняў, а таксама архівы БІНіМ і Скарынаўкі. Карыстаючыся нагодаю, хацелася б выказаць шчырую ўдзячнасць кіраўніку БІНіМ д-ру Вітаўту Кіпелю ды захавальніку і кіраўніку Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны за спрыянне ў маёй даследчай дзейнасці.

Між іншага, нарадзілася таксама ідэя скарыстаць назапашаны рэчава-выяўленчы матэрыял яшчэ і іншым чынам: у 2013 г. арганізаваць выставу, прысвечаную матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускай эміграцыі. Для гэтага шмат ёсць: калекцыі рэчаў, створаных беларусамі на эміграцыі, прыкладам, самаробныя шахматы ды карты, у якія гуляліся беларусы ў лагерах для перамешчаных асобаў у паваеннай Нямеччыне, скаўцкія знакі, пярсцёнкі, бірулькі, беларускія кашулі і сукенкі, пашытыя на эміграцыі; ёсць больш за паўтысячы розных эміграцыйных здымкаў, багата эміграцыйных выданняў, у тым ліку і з аўтографамі аўтараў, рукапісы эміграцыйных літаратараў, шыкоўныя калекцыі паштовак (больш за сотню), марак (каля сотні), дзясяткі капэртаў ды візітовак, медалёў і значкаў, выробленых беларусамі на эміграцыі, шмат разнастайных артэфактаў эміграцыйнага жыцця. Усё гэта хацелася б арганізаваць у цікавую выставу, якая б зрабілася нагодай у час 20-годдзя Першага з'езду беларусаў свету зноў звярнуцца да папулярызацыі гісторыі і культуры эміграцыі. Гэткая выстава, паводле задумы, павінна суправаджацца адмысловымі лекцыямі па гісторыі беларускага замежжа, а ў ідэале – зрабіцца своеасаблівай рухомай лабараторыяй, каб папулярызаваць культурны даробак эміграцыі ў розных рэгіёнах ды асяродках самой эміграцыі. Безумоўна, калі магчыма будзе знайсці падтрымку для гэтага праекта – матэрыяльную і арганізацыйную. Адмысловым кніжным дадаткам, своеасаблівым даведнікам да выставы мае стаць калекцыйны нумар альманаха "Запісы БІНіМ", які выйдзе таксама ў наступным годзе і будзе заснаваны на апісанні эміграцыйных калекцыяў ды прэзентацыі гэтых скарбаў на DVD.




*Беларуская вялікодная паштоўка. Нямеччына, 1950 г.*



*Беларускі скаўцкі нож. Нямеччына, др. пал. 1940-х гг.*

Як ужо зазначалася, сабраныя з дапамогаю БІНіМ і Скарынаўкі калекцыі дакументальных і рэчавых матэрыялаў беларускай дзейнасці на эміграцыі скарыстоўваюцца не толькі ў папулярызацыі тэмы праз інтэрнэт. Шукаюцца розныя формы. Сёлета мае выйсці таксама адмысловы каляндар, прысвечаны літаратарам беларускага замежжа, дзе будуць спалучацца дакументальныя і фатаграфічныя матэрыялы з аўтографамі аўтараў, цытатамі з іх тэкстаў ды інфармацыяй пра іх.

Калі вярнуцца да праекта "Эміграцыйная гісторыя…", дык дзякуючы яму я фактычна сістэматызую і некаторыя матэрыялы для будучых кніг, у тым ліку і для кнігі, прысвечанай беларусам у Канадзе. Апошняя — галоўная мая даследчая праца на сёння. Назбіралася ўжо багата архіўных і друкаваных матэрыялаў па гісторыі беларускай прысутнасці ў гэтай паўночнаамерыканскай краіне.

➲

Дзякуючы мінулагодняй паездцы ды працы ў канадскіх архівах ды сёлетняму падарожжу ў лонданскую Скарынаўку, а таксама матэрыялам, перададзеным беларускім архівістам з Нью-Ёрка Лявонам Юрэвічам, я маю выключную калекцыю дакументаў і публікацый па тэме і займаюся паступовай іх апрацоўкай ды падрыхтоўкай тэкстаў, прысвечаных розным перыядам і арганізацыям беларусаў у Канадзе. Гэта будзе працяг гісторыі беларускай прысутнасці ў свеце, распачатай папярэднімі кнігамі – Вітаўта Кіпеля пра ЗША ды маімі пра Аўстралію і Вялікабрытанію.

Сёння ў Беларусі мала ведаюць пра жыццё суайчыннікаў за мяжой. На навуковым узроўні гэта вывучаецца мала, публікацыі з'яўляюцца эпізадычна і не закранаюць шырокую аўдыторыю. Мае ж памкненні звязаныя як уласна з даследаваннем розных старонак жыцця беларускага замежжа, гэтак і з па магчымасці шырокай папулярызацыяй інфармацыі пра гісторыю і культуру эміграцыі. Тыя кнігі ды выданні, якія я рыхтую, новы праект ў "жывым часопісе" і ідэя выставы ды ўсё іншае, што ўжо ёсць ці яшчэ будзе, якраз з'яўляецца ажыццяўленнем згаданых мэтаў.

На заканчэнне хацелася б звярнуцца да ўсіх зацікаўленых асобаў, тых, хто шукае матэрыялы пра таго ці іншага дзеяча, падзею ці выданне на эміграцыі, а таксама тых, хто можа дапамагчы ў арганізацыі выставы ці ў выдавецкай справе, звяртацца да мяне праз "жывы часопіс", або праз электронную пошту nhardzijenka@gmail.com.

*Наталля Гардзіенка*

## ШЭСЦЕ БЕЛАРУСАЎ ВАРШАВЫ НА 8 ВЕРАСНЯ

8 верасня ў Варшаве адбылося святочнае шэсце.

Некалькі дзясяткаў беларусаў прайшлі праз цэнтр Варшавы ад помніка Шарлю дэ Голю да памятнай дошкі ў гонар генерала Станіслава Булак-Балаховіча. Шэсце праходзіла пад нацыянальнымі бел-чырвона-белымі сцягамі.

Каля шыльды былі запаленыя свечкі і прагучала малітва ў памяць нашых продкаў абаранялі гонар і незалежнасць Радзімы.

У Варшаве шэсце 8 верасня праходзіць з ініцыятывы "Беларускай нацыянальнай памяці" ад 2006 года.

*nn.by*

## У МІНСКУ ПРАЙШЛА ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ ЮРАСЯ ШАМЕЦЬКІ

25 верасня ў кнігарні "ЛогвінаЎ" адбылася творчая сустрэча з паэтам Юрасём Шамецькам (Беларусь – Канада), падчас якой была прэзентаваная яго кніга "Шлях да вяртання". Вяла імпрэзу Віка Трэнас, рэдактар аддзела паэзіі часопіса "Маладосць". Яна адзначыла, што пазнаёмілася з паэтам дзякуючы Ізяславу Катлярову і Соф'і Шах, якія параілі ёй звярнуць увагу на яго творчасць. Вершы Юрася Шамецькі пачалі друкавацца на старонках "Маладосці". Вось што пісала Віка Трэнас пра яго дэбют у гэтым часопісе: "Публікацыя выйшла ў рубрыцы "Упершыню ў "Маладосці" (аўтар яе рэдка выступаў да гэтага ў перыёдыцы і не вядомы шырокаму чытацкаму колу), але не было сумненняў, што перад намі калі не прафесійны літаратар, то сапраўдны паэт".

Кніга "Шлях да вяртання" выйшла ў мінулым годзе, але ў Беларусі прэзентавалася ўпершыню. Як адзначыў аўтар, яе склалі простыя шчырыя вершы, якія ідуць ад душы. Значнае месца ў кнізе аддадзена гарадской і любоўнай лірыцы. Падчас прэзентацыі аўтар зачытваў свае вершы і адказваў на пытанні публікі, якіх было нямала. Прывядзем адказы Юрася Шамецькі на некаторыя з іх.

– Скажыце, калі ласка, ці ёсць у Вас у Канадзе зацікаўленая аўдыторыя? І ці мяняецца гучанне Вашых вершаў, калі Вы чытаеце іх тут, у Беларусі, і калі Вы чытаеце іх у Канадзе?

– У гэтым сэнсе мне пашанцавала. У Канадзе ў мяне шмат сяброў-беларусаў, там вялікая дыяспара, вырасла ўжо некалькі пакаленняў канадскіх беларусаў. Чым больш я жыву ў Атаве, тым больш яна для мяне робіцца беларускай. Паглядзіце, нават назва горада – Атава – гучыць зусім па-беларуску! Што да гучання вершаў, перш за ўсё я пісаў для людзей, якія мяне, магчыма, слухалі і разумелі. Ніякай розніцы няма, чытаю я свае вершы тут або там, бо і тут, і там я чытаю іх для сяброў.

– Калі вы пачалі пісаць вершы?

– Пісаць я пачаў яшчэ ў школе, але тое было па-руску. Нейкія вершы можна нават знайсці ў архіве Беларускага радыё. Потым, калі пачалася перабудова і беларускае пачало выходзіць з нябыту, пачаў пісаць па-беларуску. Пасля, як паехалі ў Канаду, было не да вершаў, трэба было ўладкавацца. Але мінуў час, і неяк сабралася шмат беларусаў, і нехта прапанаваў: "А давайце чытаць беларускія вершы!" Ідэя была добрая, але хутка мы зразумелі, што нам не хапае беларускай паэзіі. Так я пачаў зноў пісаць вершы. Цяпер пішу новую кнігу.

– Вы пішаце толькі па-беларуску? На якой мове размаўляеце ў сям'і?

– Цяпер толькі па-беларуску пішу. Моўная праблема многім беларусам пакуль не здаецца важнай, бо іх займае іншае: як пражыць, напрыклад. Магчыма, калі людзі пабагацеюць, дык успомняць і пра мову, і пра культуру, захочуць быць беларусамі. Мне здаецца, перайсці на беларускую мову людзям будзе няцяжка, мова на нейкім генетычным узроўні ў нас закладзена. Мне, напрыклад, вельмі лёгка было перайсці на родную мову. Дома я таксама размаўляю па-беларуску. Дачка мая з татам размаўляе па-беларуску, з мамай – па-руску, ходзіць у французскую школу, дзе размаўляе яшчэ і па-ангельску. Раней у нас была беларуская суботняя школка, чатыры гады праіснавала, нашыя дзеці туды хадзілі. Але, на жаль, спадар Мурзёнак памёр, і пакуль мы, на жаль, засталіся без школкі.



*Юрась Шамецька*

– Скажыце, ці адчуваеце Вы часам настальгію?

– У мяне няма такога адчування. Раней, калі людзі апыналіся далёка ад Радзімы і амаль не мелі з ёй сувязяў, яны, магчыма, адчувалі настальгію. Але цяпер ёсць інтэрнэт, ды і я заўсёды магу прыехаць у Беларусь, так што настальгіі ў мяне няма.

Падчас вечарыны публіка не толькі змагла паслухаць вершы ў аўтарскім выкананні і паразмаўляць з творцам, але і паслухаць цудоўную музыку ў выкананні дуэта "Кантабіле", у складзе якога – Улада Шамецька (скрыпка) і Міхась Рыкаў (гітара), – паслухаць, што праўда, у запісе. Застаецца спадзявацца, што на прэзентацыі наступнай кнігі Юрася Шамецькі гэты дуэт зможа выступіць перад публікай з ім разам "ужывую".

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# НАВІНЫ КАМПАНІІ “БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!”

## Міжнародны конкурс графічных праектаў “МЫ2012”

Беларускі саюз дызайнераў і Беларускі саюз мастакоў абвяшчаюць пачатак беларуска-польскага конкурсу графічных праектаў “МЫ2012”. Галоўная мэта конкурсу – асэнсаванне ўласнай культурнай ідэнтычнасці і спроба яе візуалізацыі сучаснымі пластычнымі сродкамі. Пераможцы конкурсу з абодвух бакоў будуць адзначаныя паездкай у краіну-суседку і памятнымі ўзнагародамі.

Прызавы фонд для беларускіх аўтараў, які склаў 7 500 000 рублёў, быў заснаваны МГА “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”. Адмысловая прэмія, якая будзе ўручаная пераможцам, атрымала назву “Будзьма беларусамі!” невыпадкова. На думку арганізатараў, менавіта назва аднайменнай грамадскай кампаніі як мага лепш адпавядае мэтам конкурсу і дазваляе прыцягнуць увагу да важнасці пошуку і ўвасаблення нацыянальных маркёраў у сучаснай форме.

Конкурс мае мэтай адбор, прэзентацыю і ўзнагароджанне твораў, якія найбольш чытэльна і запамінальна расказваюць пра культуру, ствараюць яркія мастацкія вобразы і прэзентуюць адметнае аўтарскае бачанне. Заяўленыя на конкурс творы маюць расказаць пра культуру кожнай з краінаў з дапамогай візуальных моваў розных жанраў і кірункаў, трактуючы нацыянальную культуру як у глабальным, так і ў лакальным кантэксце.

На конкурс могуць дасылацца работы, выкананыя ў любым жанры – плакат, постар, знак, паштоўка, ілюстрацыя, станковая графіка, макеты кніжак, газет, фатаграфічныя праекты і інш. Заяўленыя праекты павінныя быць чытэльнымі як для гледачоў краіны аўтара, так і для гледачоў замежных.

З работ, адабраных міжнародным журы, будзе сфармаваная сумесная выстава “МЫ2012”, якая ўвосень гэтага года па чарзе будзе паказаная ў Мінску і ў Варшаве. Паралельна з выставай адбудуцца двухбаковыя творчыя сустрэчы і дыскусіі. Усе этапы праекта будуць асвятляцца на спецыяльна створанай інтэрнэт-старонцы, якая запрацуе найбліжэйшым часам. Ужо працуе старонка праекта ў Facebook.

Па ўсіх пытаннях, звязаных з конкурсам, вы можаце звярнуцца па тэлефоне +375 293 80 75 ці на электронны адрас bdu@nsys.by (з пазнакай ”МЫ”).

*Прэс-служба кампаніі “Будзьма беларусамі!”*

## Чым ёсць Радзіма?

“Bonjour! Guten Tag! Прывітанне! Voghdzuyin! Dzien dobry!” – з гэтых словаў распачаўся праект у Засніцы, Нямеччына. На камяністым беразе Балтыйскага мора, каля крэйдавых скалаў, дзе чайкі белымі крыламі дакранаюцца да нябёсаў, моладзь з 5 розных краінаў – Францыі, Нямеччыны, Беларусі, Арменіі ды Польшчы – сабралася разам з 28 ліпеня па 5 жніўня 2012, каб файна правесці час і высветліць, чым ёсць Радзіма ў разуменні кожнага. Праект быў арганізаваны нямецкай арганізацыяй “Arbeit und Leben”, у якасці партнёраў выступіла беларускае грамадскае аб’яднанне “Адукацыя без межаў” і грамадскія арганізацыі з іншых краін. На працягу праекта хлопцы і дзяўчаты, аб’яднаўшыся ў невялікія групы, рыхтавалі пытанні для карэнных жыхароў Засніца, каб знайсці адказ на галоўнае. “Ці можаце вы ўявіць сваё жыццё без Радзімы?. Радзіма – гэта ваша сям’я, краіна, сябры ці незвычайныя краявіды?” – вось толькі некалькі прыкладаў зададзеных пытанняў. У выніку кожны з удзельнікаў знайшоў тое самае разуменне Радзімы ды пабачыў, што для кожнага разуменне гэтае сваё. Актыўныя ўдзельнікі, якія змаглі правільна адказаць на пытанні, датычныя Беларусі, атрымалі сімвалічныя падарункі ад грамадска-культурнай кампаніі “Будзьма!”.



Падчас удзелу ў праекце ў Засніцы прадстаўнікі розных культур здолелі стаць сапраўднай сям’ёй. На развітанне паўсюль чулася ўсім зразумелае “Усяго добрага і хутка пабачымся”, і кожны вёз на сваю Радзіму кавалачак іншых культур і моваў.

*Алеся Муравіцкая*

## ВЕЧАР ПАМЯЦІ ЯНКІ ФІЛІСТОВІЧА Ў ВАРШАЎСКІМ ПАРКУ

Беларуская Нацыянальная Памяць правяла ў цэнтральным парку Варшавы акцыю памяці Янкі Філістовіча. 9 верасня 1951 г. Янка Філістовіч вярнуўся ў Беларусь, каб змагацца за волю нашага Краю. Прысутным апавялі пра жыццё і дзейнасць Янкі Філістовіча, адбыўся прагляд фільма ”Беларускі Рэзістанс”. Напрыканцы ўдзельнікі запалілі паходні і выгукнулі ”Жыве Беларусь”! Гэты покліч – нашая даніна павагі ўсім тым, хто памёр, каб жыла Бацькаўшчына.

*interpolit.net*

## У ЛОДЗІ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ ДЗЕЯЧА БНР ЯЗЭПА ФАРБОТКІ

Прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Польшчы ўшанавалі памяць беларускага культурнага, грамадскага і палітычнага дзеяча, дыпламата БНР Язэпа Фарботкі, магілу якога 10 гадоў таму адшукала гісторык Алена Глагоўская.

”На 5 верасня прыпалі ўгодкі з дня яго народзінаў, — кажа старшыня ”Беларускай нацыянальнай памяці” Анатоль Міхнавец. — Учора мы сімвалічна паехалі ў Лодзь, прыбралі магілу, запалілі зніччы. Таксама прагучалі патрыятычныя вершы ў яго памяць”.

Беларуская грамада ў Лодзі будзе даглядаць гэтую магілу.

Памяць пра Язэпа Фарботку будзе жыць.

Беларускі нацыянальны дзеяч Язэп Фарботка нарадзіўся ў 1893 г. у мястэчку Налібакі колішняга Ашмянскага павета. Дэбютаваў з вершамі ў ”Нашай Ніве“ ў 1912 годзе, пераклаў урывак з ”Пана Тадэвуша“ на беларускую мову.

У 1918 годзе быў сябрам дэлегацыі БНР у Кіеве, у выніку дзейнасці якой Украінская Народная Рэспубліка прызнала незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.

Пасля вайны арыштаваны і сасланы ў Данбас. Напрыканцы 1945 пасяліўся ў Лодзі, дзе памёр у 1956 годзе.

*nn.by*

## “КАЛІНОЎЦЫ” ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ МАРЫІ ЯМАНТ

3 верасня ў Варшаве адбылося традыцыйнае ўшанаванне памяці Марыі Ямант — нарачонай Кастуся Каліноўскага.

У гэты дзень споўнілася 104 гады з дня яе смерці. Студэнты навучальнай праграмы Каліноўскага сабраліся на Павонзкоўскіх могілках Варшавы, дзе пахаваная Марыя. Арганізатарам мерапрыемства выступіла ”Беларуская Нацыянальная Памяць”.

Перад прысутнымі выступіў старшыня БНП Анатоль Міхнавец. Ён расказаў пра гісторыю знаходкі магілы і жыццёвы шлях самой Ямант. Пасля хвіліны маўчання ў памяць Ямант прысутныя паклалі на яе магілу кветкі і запалілі зніччы.

euroradio.by

## БЕЛАРУСКІ ЛЕТНІК У ТАЛІНЕ

31 жніўня ў Таліне распачаўся летнік беларускай культуры, які доўжыўся да 3 верасня. Арганізатарам выступіў Беларускі інфармацыйна-культурны цэнтр у Эстоніі. Сёлета летнік праводзіўся ўпершыню, аднак арганізатары спадзяюцца, што ён зробіцца традыцыйным, а таксама, што розныя мерапрыемствы, прысвечаныя беларускай культуры, будуць актыўна праводзіцца цягам года.

Адной з адметных падзеяў падчас летніка было адкрыццё ў грамадскай бібліятэцы Таліна выставы работ віцебскай мастачкі Святланы Баранкоўскай. Яна вырабляе цудоўныя габелены з выявамі дзеячаў беларускай культуры. Падчас урачыстага адкрыцця выставы для наведнікаў граў гурт "Верасень".

Тамсама адкрылася і іншая выстава, якая экспанавала кнігі беларускіх аўтараў з іх аўтографамі.

Удзельнікі культурных мерапрыемстваў выступалі на Талінскім радыё ў беларускамоўнай перадачы "Бацькаўшчына", якую цяпер вядзе Артур Цурбакоў. Акрамя гэтага ён займаецца з дзеткамі талінскай нядзельнай школкі імя Уладзіміра Караткевіча беларускай батлейкай, і падчас летніка ён паказваў фрагменты пастаноўкі паводле твораў гэтага выбітнага пісьменніка.

Гурт "Верасень" зладзіў невялікі выступ на беразе мора. Лідар гурта, вакалістка і аўтарка песень Вольга Акуліч кажа: "У мяне ёсць некалькі песень пра мора. Вельмі прыемна было праспяваць іх на беразе Балтыйскага мора. Мне спадабалася таксама і камернасць імпрэзы, якая ставрала ўтульнасць. Гэта быў мой другі візіт у Эстонію, мінулым разам я наведвала Беларускі інфармацыйна-культурны цэнтр на Каляды. Прыемна, што ініцыятыва цэнтра дала такі плён".

У межах летніка былі зладжаныя экскурсіі па Таліне, у тым ліку наведванне славутых мясцінаў, звязаных з Беларуссю. Быў арганізаваны дыскусійны клуб, дзе абмяркоўвалася становішча беларусаў, праблемы захавання культурнай спадчыны, культурныя праекты і іншыя надзённыя пытанні.

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ АТРЫМАЎ ПРЭМІЮ ЛЕХА ВАЛЕНСЫ

Прэмія Алесю Бяляцкаму дадзена за яго "ўнёсак у абарону правоў чалавека і дапамогу людзям, якіх пераследуюць".

Цырымонія ўручэння адбылася ў суботу 29 верасня ў 11.30 ў Гданьску. На яе запрасілі жонку Алеся Бяляцкага Натальлю Пінчук, якая і атрымала прэмію з рук Леха Валенсы.

Прэмія Леха Валенсы ўручаецца асобам, інстытуцыям ці рухам, якія дзейнічаюць дзеля паразуменьня і салідарнага супрацоўніцтва народаў, свабоды і абароны правоў чалавека.

"Прэмія Леха Валенсы з'яўляецца выказваннем салідарнасці з тымі, хто змагаецца за лепшае заўтра. Яна была заснаваная ў 2008 годзе былым прэзідэнтам Польшчы і кіраўніком прафсаюза „Салідарнасць" Лехам Валенсам у знак падзякі за падтрымку, якую ён меў, атрымліваючы Нобелеўскую прэмію міру 1983 года", - паведамляе прэс-служба Інстытута Леха Валенсы.

Таксама ў верасні Алесь Бяляцкі быў намінаваны на прэмію Еўрапарламента імя Сахарава "За свабоду думкі".

Прэмія імя Сахарава заснаваная Еўрапарламентам у 1988 годзе. Яна прысуджаецца людзям і арганізацыям, якія прысвячаюць сваё жыццё і дзейнасць абароне правоў чалавека і яго свабодаў, перадусім свабодзе слова. Намінантаў на прэмію "За свабоду думкі" вылучаюць дэпутацкія фракцыі Еўрапарламента або групы дэпутатаў, якія павінны сабраць у падтрымку свайго кандыдата не менш за 40 подпісаў.

Прадстаўнікі Беларусі ўжо атрымлівалі прэмію імя Сахарава: у 2004 годзе прэміі было ўдастоена грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў", у 2006 годзе — экс-кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Мілінкевіч.

Уручэнне цяперашняй прэміі "За свабоду думкі" адбудзецца 12 снежня.

*Паводле nn.by*

## ВАРШАЎСКІЯ БЕЛАРУСЫ ЎШАНАВАЛІ АХВЯР ТЭРАКТУ 09/11

У Варшаве сябры "Звязу на карысць дэмакратыі ў Беларусі" ўшанавалі ахвяр тэракту 11 верасня 2001 года ў ЗША.

Моладзь усклала кветкі ў гадавіну тэракту да амбасады ЗША ў Варшаве. Удзельнікі акцыі прыгадалі трагічныя падзеі, адзначыўшы, што падзеі 11 верасня 2001 года змянілі свет.

Падчас акцыі перад прысутнымі выступіў грамадскі дзеяч Ігар Коктыш, які распавёў аб тым, што тэрарызм у свеце не мае межаў і варта аддаць даніну памяці яго ахвярам.

Напрыканцы прысутныя ўшанавалі ахвяраў тэракту хвілінай маўчання.

*svaboda.org*

## ДЗЕНЬ СЦЯГА Ў ЗАМЕЖЖЫ

У многіх краінах свету 19 верасня беларусы адзначалі Дзень сцяга. Так, на здзіўленне турыстаў і жыхароў польскай сталіцы, у самым цэнтры горада, перад каралеўскім палацам лунаў 9-метровы бел-чырвона-белы сцяг. Такім чынам беларусы Польшчы адсвяткавалі Дзень Пагоні і сцяга. Раніцай таго ж дня па-над лонданскім "Марыян Хаўз" – сядзібай Беларускага рэлігійнага і культурнага цэнтра імя святога Кірылы Тураўскага – таксама залунаў бел-чырвона-белы сцяг.

Менавіта ў гэты дзень 21 год таму Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь аднавіў гістарычную справядлівасць, зацвердзіўшы ў якасці афіцыйнай дзяржаўнай сімволікі бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоню".

Ад 1948 года "Марыян Хаўз" ("Дом Марыі") у раёне Лондана Паўночны Фінчлі выконваў ролю сядзібы Беларускага рэлігійна-культурнага цэнтра, заснаванага тагачасным рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду айцом Чаславам Сіповічам. Сёлета, пасля больш як двухгадовай рэканструкцыі, у "Марыян Хаўз" вярнулася грамадскае жыццё, а ў размешчаную ў ім капліцу Св. Апосталаў Пятра і Паўла — штодзённыя багаслужбы.

*Паводле facebook.com, nn.by,*

## БЕЛАРУСЫ НА "КІРМАШЫ НАРОДАЎ" У ВІЛЬНІ

14–16 верасня ў Вільні прайшоў "Кірмаш народаў", у якім узялі актыўны ўдзел і беларусы. Падчас гэтага свята прадстаўнікі шматлікіх культураў прэзентуюць сваю нацыянальную культуру. Сёлета моладзевая асацыяцыя "StudAlliance", "Грамадзянскае і палітычнае прадстаўніцтва Беларусі ў Вільні", студэнты ЕГУ пры актыўнай падтрымцы кампаніі "Будзьма беларусамі", прэзентавалі віленчукам і гасцям літоўскай сталіцы Беларусь.

"Сёлета мы імкнуліся да больш шырокага прадстаўніцтва Беларусі ў гэтым Кірмашы. Досвед мінулага года паказаў, што ў нашых суседзяў ёсць вялікая зацікаўленасць Беларуссю, беларускай культурай, грамадска-палітычнай сітуацыяй. Гэтым разам мы сумясцілі гэтыя чыннікі і атрымалі досыць шырокае прадстаўніцтва, дзе можна было пабачыць і інфармацыйную частку пра грамадска-палітычнуюсітуацыю ў Беларусі, і культурніцкую, дзе можна было набыць шматлікія беларускія кнігі ды сувеніры, і музычную, дзе пяць гуртоў з Беларусіз'яўляліся хэдлайнерамі 14 і 15 верасня", – адзначыў кіраўнік "StudAlliance" Кірыл Атаманчык.

Падчас Кірмашу беларускія гурты "Barbados", "PAWA", "Re1ikt", "Рокаш" і "Рэха" выступалі на галоўнай сцэне, а арганізатары аддалі ўсю вячэрнюю музычную праграму менавіта беларусам.

*Прэс-служба моладзевай асацыяцыі «StudAlliance»*

# Уладзімір Пузыня
# 1940 – 2012



Яму было 72 гады.

"Музыка, выкладчык, народны майстар… ні ў тым, ні ў гэтым ён не быў дасканалым прафесіяналам. Але ва ўсім разам — ён быў Пузыня. Пражыў жыццё сярод людзей са сваёй дудкай, — успамінае сябра рэжысёр Валер Мазынскі. — Мучыўся Беларуссю. Клаўся і ўставаў з думкай, каб усё змянілася, павярнулася ў бок беларускага. А як быў невгаўнічы, рамантык — паліў гэтым найперш сябе.

Я з ім пазнаёміўся яшчэ ў 1980-я, калі прыехаў у Мінск. Зайшоў у рэдакцыю ЛіМа, раптам чую — дудка грае ў суседнім пакоі. А гэта Валодзя ў фатографа Крука сядзеў. Гэта цяпер мы прывыклі, а тады яшчэ гукі жалейкі разрывалі сэрца…

Ён пачынаў як музыка ў аркестры Жыновіча, аб'ездзіў увесь Саюз. Пасля ўзяўся адраджаць жалейку. Пузыня рабіў гэтыя дудкі і нёс іх у людзі. Хоць грошай з іх не меў. Былі майстры і апроч яго, але тыя больш на месцы сядзелі: прыйдуць да іх аматары, купяць інструмент. А Валодзя жалейку папулярызаваў. Мо што і прадаваў, але болей дарыў. Цяпер тыя яго дудкі могуць быць вельмі дарагія. Сённяшнія маладыя дудары ў яго вучыліся.

Пакуль ногі насілі — быў на ўсіх акцыях, мітынгах са сваімі вялікімі дудамі. Разам з сынам, Алесем, яны ігралі. Цяпер Алесь у ЗША, у Беларусі — дачка Вольга з унукамі.

Выкладаў ва Універсітэце культуры, але не быў ад прыроды выкладчыкам. Студэнты прыходзілі да яго ў майстэрню, глядзелі, вучыліся.

Далі яму пакой у інтэрнаце "Кулька", дык ён абсталяваў там "Беларускую хатку". Абшыў сцены дрэвам, аздобіў — колькі народу прыходзіла! У Пузыні было некалькі альбомаў з пажаданнямі наведнікаў — любіў іх пераглядаць. Жонка Ельцына была, амерыканцы, а колькі нашых! Ужо тая "Беларуская хатка" стала слаўнейшая за сам універсітэт. Валодзя ў той час расцвіў, быў шчаслівы. "Папрасілі" яго адтуль ужо ў 2000-я. За беларускае. Бо народ прыходзіў, і ясна, якія размовы ў "Хатцы" вяліся. Звольнілі з працы за «вынас інструментаў». Гэта было яшчэ пры Ядзвізе (Грыгаровіч, былая рэктарка Універсітэта культуры — Рэд. НН). Змусілі яе…

Ён перанёс "хатку" ў Ганалес — у жончын катэдж. Але Ганалес — гэта і ёсць лес.

Я і то два гады там не паказаўся. Ён крыўдаваў… Валодзя аказаўся выкінуты з жыцця — дудзець так гучна, як ён умеў, ужо не дазвалялася..."

***

Уладзімір Пузыня нарадзіўся 26 лютага 1940 у вёсцы Суцін (Пухавіцкі раён). Яго бацька, Якуб Пузыня, загінуў на фронце ў 1941-м. Маці з малымі дзецьмі ратавалася ў бежанстве ва Украіне, з цяжкасцю ўдалося ім вярнуцца дадому. Пасля школы Уладзімір працаваў качагарам, потым лякальшчыкам на заводзе. Скончыў музычную вучэльню па класе трубы, магілёўскую школу мастацтваў (дзе вывучыў майстэрства іканапісу). Выкладаў у музычнай школе, саліраваў у народным аркестры Жыновіча.

У 1970-я разам з майстрам Уладзімірам Крайко пачаў рабіць народныя інструменты. З 1982 г. працаваў у Інстытуце культуры выкладчыкам ігры на беларускіх народных інструментах. Адчыніў лабараторыю па адраджэнні і вырабу беларускіх народных інструментаў "Беларуская Хатка". У ёй наладзіў рамонт і выраб унікальных ліраў, дудаў, адрадзіў старажытныя, ужо забытыя, сурму і жалейку, хорум, апісанне якога было толькі ў летапісах і на малюнках. У 1990 г. Пузыня напісаў і выдаў кнігу "Школа ігры на беларускіх народных інструментах", у вялікай меры дзякуючы якой упершыню ў гісторыі музычнага мастацтва беларускія народныя інструменты ўвайшлі ў партытуру опернага сімфанічнага аркестра.

Свой вопыт народны майстра перадаў сыну Алесю, які скончыў Універсітэт культуры. У пачатку 1990 гадоў ні адзін значны канцэрт ці якая іншая ўрачыстасць не праходзілі без удзелу музыкаў Уладзіміра і Алеся Пузыняў. Яны заўжды былі ў гушчы культурных і палітычных падзеяў Беларусі. Дуда Уладзіміра Пузыні адкрывала практычна ўсе з'езды беларусаў свету.

У 1994 годзе бацька і сын, каб рэпрэзентаваць Беларусь на фестывалі лірнікаў у Францыі, выправіліся туды за свой кошт. Праз год музыкаў запрасілі з канцэртам у ЗША ў штат Тэхас. А вярнуліся дахаты яны ўжо пасля ганебнага рэферэндуму. Усё крута памянялася, пачынаючы з адносінаў кіраўніцтва Універсітэта культуры, дзе месціцца "Беларуская Хатка". Пузыню далі працу толькі на палову стаўкі, а потым выправілі на пенсію. Апошнія гады ён жыў у вёсцы Ганалес (Мінскі раён).

*Паводле артыкула Валянціны Якімовіч, nn.by*

# Беларускі каляндар памятных дат на кастрычнік 2012 года

3 кастрычніка – 90 гадоў таму, у 1922-м, на Навагрудчыне нарадзіўся Міхась Наўмовіч, мастак, дзеяч эміграцыі ў Францыі.

5 кастрычніка – 140 гадоў таму ў в. Малі (цяпер Астравецкі р-н) памёр Іосіф Гашкевіч (1814–1872), дыпламат, мовазнавец, даследчык Японіі і Кітая, натураліст. Пахаваны ў Астраўцы.

7 кастрычніка – 100 гадоў таму на хутары Высокі Груд (цяпер Пружанскі р-н) нарадзіўся Юры Попка (1912–1990), выдавец, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне.

10 кастрычніка – 45 гадоў таму, у 1967-м, у Гданьску заснаванае Беларускае грамадска-культурнае таварыства.

15 кастрычніка – 195 гадоў таму ў Салюры (Швейцарыя) памёр Тадэвуш Касцюшка (1746–1817), дзяржаўны і вайсковы дзеяч, кіраўнік паўстання 1794 г. У 1818 г. перапахаваны ў Вавельскім замку ў Кракаве.

19 кастрычніка – 45 гадоў таму памёр Аляксандр Махноўскі (1902–1967), педагог, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Пахаваны на беларускай частцы могілак у Іст-Брансвіку (Нью-Джэрсі, ЗША).

20 кастрычніка – 120 гадоў таму ў в. Клешнякі (цяпер Шчучынскі р-н) нарадзіўся Янка Тарасевіч (1892–1978), рэлігійны і грамадскі дзеяч эміграцыі ў Канадзе, Швейцарыі і ЗША, тэолаг.

21 кастрычніка – 95 гадоў таму, у 1917-м, у Петраградзе выйшаў першы нумар газеты "Беларуская крыніца".

22 кастрычніка – 75 гадоў таму, у 1937-м, нарадзілася Надзея Груша (дзяв. Сасноўская; г. Горкі), дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

27 кастрычніка – 65 гадоў таму, у 1947-м, у Лондане заснаваная Беларуская каталіцкая місія візантыйска-славянскага абраду ў Англіі.

28 кастрычніка – 10 гадоў таму памёр Мікалай Рулінскі (1923–2002), афіцэр БКА, грамадскі дзеяч у Вільнюсе.

29 кастрычніка – 75 гадоў таму, у 1937-м, у Мінску у будынку НКУС цягам ночы расстраляныя 22 беларускія і яўрэйскія пісьменнікі, шэраг навукоўцаў і грамадскіх дзеячаў.

30 кастрычніка – 75 гадоў таму, у 1937-м, у Мінску ў НКУС расстраляныя 32 чалавекі, сярод якіх былі Янка Нёманскі (сапр. Іван Пятровіч), пісьменнік, эканаміст; Тодар Кляшторны, паэт.

31 кастрычніка – 80 гадоў таму памёр Кіпрыян Кандратовіч (1859–1932), генерал, міністр БНР. Пахаваны ў Пагародні (цяпер Воранаўскі р-н), пазней перапахаваны каля праваслаўнай царквы ў Воранаве.

31 кастрычніка – 65 гадоў таму, у 1947-м, выйшаў першы нумар газеты "Бацькаўшчына" (выдавалася ў Мюнхене да снежня 1966 г.).

31 кастрычніка – 20 гадоў таму памёр Міхась Ткачоў (1942–1992), грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, археолаг, педагог. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

**Беларусы ў свеце**
№9(125), верасень 2012

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27